Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 22 Серада, 10-га Верасьня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.

## Аб школьнай справе.

Часта зьвяртаюцца да нас провінцыянальныя жыхары з запытаньнямі аб тым, як можна залажыць у тэй ці іншай вёсцы пачатковую беларускую школу.

Гэта й ня дзіва. Бо школьны год пачынаецца, сельскія дзеці патрабуюць даступнае ім прасьветы, а бацькі жадаюць, каб дзеці даставалі навуку магчыма з меншымі затратамі ў сябе ў хаце, ў сваёй роднай ваколіцы.

Дзіўна толькі, што дасюль сяляне не разумеюць, дзякуючы горкай практыцы мінулых некалькіх гадоў, аднае простае рэчы.

Не разумеюць таго, што *права закладаць свае беларускія школы забясьпечана нам саусім*, як аснаўнымі законамі Польскае Рэспублікі, ці йначай кажучы Дзяржаўнаю Конституцыяю, так і новым законам аб мове нацыянальных меншасьцяў у школах, які закон будзе мець сілу з 1-га кастрычніка сёлетняга 1924-га году.

Дзеля гэтага, ніякае няпэўнасьці ў праве беларусаў на свае пачатковыя школы нідзе ня можа быць.

Права гэтае абварункована закочамі і школьныя інспэктары, як дзяржаўныя вураднікі, мусяць гэтым законам пакарацца, мусяць іх спаўняць.

Справа ўся ў тым, што беларуская школа можа адчыняцца толькі там, дзе яе выразна зажадае само насяленьне, злажыўшы школьным уладам адпаведную заяву.

Пры гэтым трэба, на моцы закону, каб пад заяваю аб жаданьні мець беларускую пачатковую школу падпісалася не менш, як 40 чалавек бацькоў, якія гарантавалі-б той варунак, што ў школе, аб адчыненьні якой яны просяць, будзе вучыцца ня менш як 40 дзяцей.

Гэта зусім зразумела: за нас ніхто нашае справы рабіць ня будзе—трэба яе рабіць самым.

Трэба запомніць старыя часы, калі былі мы ўсе ў маскоўскай няволі, калі царскія вураднікі сілком накідалі нам свае маскоўскія школы, саўсім нас ня пытаючыся, хацелі мы гэтага, ці не.

Царская ўлада саўсім ня лічыла нас за народ, убіваючы нам у галаву, што *усе мы рускія*, мову нашу лічылі за нейкае сабе „нарѣчіе“, думаючы, што яна розьніцца ад маскоўскай мовы нагэтулькі сама, як гутарка якое-нібудзь тульскае губэрні, альбо іншае шчыра-маскоўскае провінцыі.

Выходзіла, што мы ў духоўным сэнсе знаходзіліся ў стане паншчыны—мы мужыкі і нам не дана было права думаць аб сваіх справах, бо аб іх вольна было думаць толькі пану—гэта значыць царскай уладзе.

Гэткія часы, хоць ня вельмі даўно, але назаўсёды мінулі.

Цяпер мы — грамадзяне Польскае Рэспублікі, а не рабы расейскага цара, а кожны грамадзянін у рэспубліцы аб правох сваіх павінен турбавацца сам.

І калі мы цяпер будзем дабівацца ад уладаў закладаньня для нашых вясковых дзетак нашых родных пачатковых беларускіх школаў, дык перад маладым пакаленьнем нашым мы споўнім гэтым толькі сьвяты наш грамадзянскі абавязак, а ў адносінах да Дзяржавы, грамадзянамі якой зьяўляемся, г. знач. да Польскае Рэспублікі, скарыстаем з свайго простага грамадзянскага права.

А з гэтага ўсяго якраз паўстае прад намі задача самым старацца адчыняць школы, ўваходзячы з заявамі да школьных павятовых інспэктароў.

Прасьцей кажучы, жыхары аднае ці колькіх вёсак, якія хочуць, каб была ў іх беларуская пачатковая школа, павінны напісаць аб гэтым прыгавар.

Апрача прыгавару, трэба напісаць дэклярацыю да школьнага інспэктара з подпісамі ня менш, як 40 чалавек тых, чые дзеці зьявяцца патрэбным, паводлуг закону, школьным комплектам — 40 дзяцей. Подпісы засьведчыць валасны старшыня (гмінны войт), сьцьвердзіць на прыгавары, што сапраўды ён сялянамі зроблены і прыгавар разам з дэклярацыяй трэба пераслаць (найлепей цераз каго-нібудзь асабіста) павятоваму школьнаму інспэктару.

Калі-б інспэктар яшчэ вымагаў якіх фармальнасьцяў, дык зьвяртацца трэба ў рэдакцыю нашае газэты, якая ў аддзеле юрыдычных парадаў заўсёды надрукуе адказ, парадзіўшы, што рабіць далей.

Можна напісаць і ў Школьную Камісію пры Беларускім Грамадзянскім Сабраньні, якая мусіць даць узор прыгавару і дэклярацыі, якія патрэбны дзеля падачы школьным уладам.

Вось і ўвесь нямудры працэс закладаньня сваіх родных школаў.

А патрэба ў гэтых школах вялікая.

Дасюль гэтая справа з розных прычын тамавалася і толькі пакрысе ёсьць надзея паставіць яе на цьвёрды грунт.

Школьная Камісія пры Беларускім Грамадзянскім Сабраньні ў Вільні пачынае рэестрацыю народных настаўнікаў.

І вось абавязак кожнага беларуса, які быў ці можа быць настаўнікам пачатковае школы — зарээстравацца, прыслаўшы ў Школьную Камісію анкету, якую мы сёньня друкуем на шпальтах нашае газэты. Ніхто ня мае моральнага права адмовіцца ад пачэснае працы на ніве прасьветы, ня мае права хаваць свайго таленту ад свайго народу.

І мы спадзяёмся на дружны водгук беларускае інтэлігэнцыі, спадзяёмся, што агульнымі сіламі самых сыноў народу ўдасца нарыхтаваць заняпаўшую школьную справу.

Усе мы разам адпавядаем за лёс нашага юнацкага пакаленьня, ўсе мы павінны гэта памятаць і дзеля важнай прасьветнай справы не шкадаваць трудоў сваіх.

Зерне прасьветы, пасеянае на роднай ніве пры якіх-бы ні было варунках, не змарнуецца ніколі, а наадварот дасьць у блізкай будучыне гэткі багаты плод, якога мы можа й не прадбачым

Аб школьнай справе шмат гаварыць ня прыходзіцца, бо час гарачы, восень ужо пачалася, залатая воля дзяцей кончыцца і настае школьная праца.

Дык ня трэба драмаць і, не марнуючы ані мінюты часу, прыступаць да тварэньня па нашых мястэчках і вёсках пачатковых родных школак.

---

## Палітычны агляд.

Першы па парадку выступіў з вялікай палітычнай прамовай на паседжаньні Лігі Народаў у Жэнэве ангельскі прэм'ер Макдональд. Ен заявіў, што Англія гатова зрабіць усё дзеля ўзмацаваньня аўторытэту Лігі Народаў, дзякуючы чаму народам удасцца палажыць моцную аснову пад будоўлю міру. Далей ён заявіў, што хаця Англія не згадзілася на проект Лігі Народаў аб узаемнай помачы, калі-б нейкая дзяржава заатакавала свайго суседа, аднак яна не перастае цікавіцца гэтым пытаньнем, па якому яшчэ ня сказана апошняга слова. Перайшоўшы да пытаньня аб абяззброеньні, Макдональд высказвае пагляд, што нельга разглядаць гэтае пытаньне бяз учасьця Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі ды Нямеччыны. Ен высказвае надзею, што злучаныя Штаты хутка ўвойдуць у Лігу Народаў і прапануе ўраз-жа прыняць у Лігу й Нямеччыну. Што датычыцца С. С. Р. Р., дык ён бачыць у ёй таксама некаторую эвалюцыю паняцьцяў. С. С. Р. Р. ужо падпісвае трактаты і мае дыпляматычныя зносіны. І ён думае, што ангельска-савецкі дагавор будзе першым крокам на шляху ўваходу Саветаў у Лігу Народаў. Далей ён вымагае забароны тайнай прадажы аружжа і амуніцыі. Але найбольшую сэнсацыю выклікала тое месца яго прамовы, ў якім ён назваў пастанову аб шлёнскім пытаньні абмылкай. Наогул ён думае, што нельга пачынаць гутарку аб справе абязброеньня, пакуль ня вытварыцца атмасфэра маральнага даверыя. І на першае месца высоўвае пытаньне аб арбітражы. Гэта значыць, што калі-б здарыўся нейкі міжнародны канфлікт або проста выступленіе адной нейкай дзяржавы проці другой, дык тая дзяржава, на якую напалі, зьвяртаецца да арбітажнае камісіі, каторая дае сваю пастанову, а ўсе сябры Лігі Народаў, падпісаўшыя гэты трактат, павінны ўсімі магчымымі спосабамі правесьці гэту пастанову ў жыцьцё і прымусіць вінаватага падчыніцца гэтай пастанове. У канцы Макдональд заклікае ўсе народы падтрымліваць ідэю арбітражу. як. адзіны спосаб утрымаць усялякую катастрофу.

Але самым трудным пытаньнем зьяўляецца вырашыць, хто нападае, проці каго, калі-б здарылася аружнае спатканьне, будуць скіраваны рэпрэсіі ўсіх сяброў Лігі Народаў. Найлепшае выражэньне слова „нападаючы“ дае амэрыканскі плян абязброеньня, пададзены на разгляд Лігі Народаў. Там гаворыцца, што нападаючай лічыцца тая дзяржава, якая адмовіцца споўніць пастанову арбітражнае камісіі.

Прамова Макдональда наогул зрабіла сільнае, але неаднолькавае на ўсіх прысутных уражаньне. У той час, як адна частка ўчасьнікаў канфэрэнцыі прыняла яе гарачымі воплескамі, другая была вельмі нездаволена, асабліва яго жаданьнем правесьці ў Лігу Народаў Нямеччыну і С. С. Р. Р. а таксама заявай, што пастанова па шлёнскаму пытаньню была абмылкай. Да прыхільнікаў Мак-

дональда належаць прадстаўнікі ангельскіх каленіяў, далей дзяржавы, якія карыстаюцца ангельскай мовай, Скандынаўскія дзяржавы і Голяндыя, а да праціўнай групы належаць Францыя, Малая Антанта, Польшча і Балтыцкія дзяржавы. І гэты падзел Лігі Народаў на дзьве групы выразна ад'значаецца, ня гледзячы на ўсе стараньні Макдональда і Эрыё, каб пагадзіць францускія і ангельскія погляды і апрацаваць агульную праграму.

Пасьля прамовы Макдональда гаварыў польскі міністар заграпічных спраў Скржынскі, які ў доўгай прамове колькі разоў выклікаўшы воплескі, развіваў ідэю арбітражу, ўзаемнай помачы і абязброеньня. Шмат каго зьдзівіла тое, што ён прайшоў моўчкі міма закранутага Макдональдам шлёнскага пытаньня. Але гэта было зроблена зумысьля дзеля тактычнасьці, каб пакінуць самой Лізе права бараніць свой аўторытэт і гордасьць, закранутыя сьмелай заявай Макдональда, які вінаваціць Лігу ў няправільным рашэньні пытаньня аб Шлёнску.

Трэцьці па парадку выступіў з вялікай прамовай францускі прэм'ер Эрыё. Прамова яго ўжо ня выклікала гэтага ажыўленьня сярод слухачоў, як прамова Макдональда. Эрыё зусім згаджаецца з поглядамі Макдональда на арбітраж. Але ён думае, што распачаць абязброеньне можна будзе толькі тады, як будзе вырашана пытаньне аб бясьпечнасьці дзяржаў, як вялікіх, гэтак і малых, на выпадак нападу суседзяў. Гэтыя тры пытаньні арбітраж, гарантыя бясьпекі і абязброеньне—ён лічыць цесна зьвязанымі і яны, паводле яго ных слоў, павінны быць вырашаны разам.

Судзячы па ўражаньню, якое зрабілі прамовы ангельскага, францускага і бэльгійскага прэм'ераў, а таксама польскага міністра заграпічных спраў, гэтая сэсія Лігі Народаў ня вырашыць аканчальна ніводнага з гэтых сусьветных пытаньняў. Тутака будзе падгатованы матар'ял для будучай міжнароднай конфэрэнцыі, якая займецца спэцыяльна пытаньнем аб міры і ў якой мабыць прымуць удзел Злучаныя Штаты, Нямеччына і С. С. Р. Р., без каторых нельга вырашыць гэткае важнае сусьветнае пытаньне. Гэткім чынам жэнэўская сэсія Лігі Народаў ёсьць толькі пера-кінутай ступенькай між лёнданскай конфэрэнцыяй, якая зрабіла першы крок на шляху згоднасьці Эўропы і чарговай міжнароднай конфэрэнцыяй, якая павінна будзе аканчальна вырашыць гэту проблему.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

— „Robotnik" піша, што сьледзтва па справе аб кіненай за карэтаю п. Прэзыдэнта Рэспублікі пэтардзе запынілася на мёртвым пункце. Арыштованы Штэйгер, якога абвінавачваюць па паказаньнях некалькіх сьведкаў, ня прызнаецца да прыпісванага яму праступленьня.

— Цэнтральны Камітэт Польскае Соцыялістычнае Партыі выпусьціў адозву да рабочых і работніц, заклікаючы іх на 21-е верасьня г. г. да масавае маніфэстацыі на карысьць агульнага міру.

— 6-га верасьня прэзэс соймавага клюбу Z. L. N. пасол Гломбінскі быў у прэм'ера Грабскага, інтэрпэлюючы яго аб бягучай палітыцы, а асабліва аб цяперашняй сэсіі Лігі Народаў. П. Гломбінскі быў стрывожаны і абураны тым, што міністар заграпічных справаў п. Скржынскі, гаворачы на Сабраньні Лігі Народаў, не адказаў на заяву Макдональда датычна Верхняе Сілезіі. Прэм'ер-міністар спакойна і лагодна растлумачыў п. Гломбінскаму, што датычна гэтае справы няма а ніякае прычыны да трывогі.

— 6.IX. п. прэм'ер-міністар меў нараду з рэфэрэнтам дэпартамэнту дзяржаўных манаполяў Гловацкім па справе ўвядзеньня сьпіртавога манаполю.

— 10 гэтага верасьня прыяжджае на ўсходнюю граніцу дэлегованая Соймам пасольская камісія на чале з пас. інжынерам Пасадскім дзеля азнаямленьня з поступам будовы кашараў і дамоў для пагранічнае паліцыі. Камісія мае аб'ехаць усё пагранічча.

— Францускім прэм'ер - міністрам Эрыо і польскім міністрам заграпічных справаў Скржынскім падпісана конвэнцыя аб рэалізацыі трох першых ратаў 400 мільённае польскае пазычкі ў Францыі.

Школьная Камісія пры Беларускім Грамадзянскім Сабраньні ў хуткім часе мае на мэце адчыняць **беларускія пачатковыя школы.**

Дзеля гэтага запрашаюцца ўсе асобы, якія хочуць працаваць на ніве роднае прасьветы, прысылаць адказы на гэткія пытаньні:

1. Прозьвішча й імя?
2. Бацькава імя?
3. Век?
4. Адукацыйны цэнз?
5. Настаўніцкі стаж?
6. Якія знае мовы?
7. Чым займаецца цяпер?
8. Дзе радзіўся?
9. Сямейны стан?
10. Адрэс?

Адказы на вышэйазначаныя пытаньні прысылаць па адрэсе: **Wilno, ul. Ludwisarska 4, Białor. Zgrom. Obyw. Komisja Szkolna.**

**За граніцай.**

— З **Масквы** тэлеграфуюць, што паводлуг адтрыманых з **Тыфлісу** вестак, паўстанчыя грузінскія аддзелы паддаюцца савецкім уладам. Арыштованы арганізатар аддзелаў князь Андронікаў.

— Прэзэс украінскае рады народных камісараў Чубар заявіў у гутарцы з прадстаўнікамі прэсы, што падгатоўчая праца па абводзе граніц аўтаномнае **Малдаўскае рэспублікі** на Украіне ўжо скончана. Рэспубліка савецкае **Малдавіі** будзе мець каля 400 тыс. жыхароў.

— Бэрлінская часопісь „Vossische Zeitung" павед. з Эсэну, што адмена мытнае граніцы паміж раёнам окупацыі і рэштаю Нямеччыны адбылася ўночы з 8 на 9 гэтага верасьня.

— Пачаты 8. IX. міжсаюзны ваенны кантроль у **Нямеччыне** ахопіць спачатку фабрыкі й заводы, працаваўшыя дзеля вайсковых мэтаў, а пасьля адбудзецца кантроль у паліцыі.

— Гэнэрал Дэгут выдаў загад аб прытарнаваньні на окупацыйным абшары амністыі, прадбачанае лёнданскім дагаворам. Пазволена таксама вярнуцца ўсім асобам, высланым з басэйну Руры, за выняткам 6 чалавек.

— У **Бэрліне** арыштованы варшаўскі жабрак нейкі Вуй, выдаваўшы сябе за князя Сапегу і называўшыся „беларускім ваяводаю".

— З **Пэкіну** паведамляюць, што Англія, Францыя, Злучаныя Штаты й Японія патрэбавалі аддзяленьня Шанхаю з ваколіцамі ад Кітайшчыны. Прадбачыцца збройная інтэрвэнцыя ў выпадку адмовы. Камандаваць саюзным флётам будзе ангельскі адмірал.

— **Маскоўская** радыястанцыя падае адозву галоўнае рады сындыкатаў С. С. Р. Р. і галоўнага камітэту ўсіх савецкіх профэсыянальных саюзаў у

# Аб перакладах на беларускую мову.

*(Культурныя заданьні).*

Тэму гэную мы ўжо закранывалі раз, (больш абшырна), ў іншым месцы, але дзеля важнасьці справы і ў мэтах зацікаўленьня ёю шырэйшых кругоў нашага грамадзянства зачапляем яе яшчэ раз ў конспэктычнай форме, дакідваючы колькі новых мысьляў.

*Аўтор.*

Як ведаем, *беларуская літэратура*, дзякуючы яе надспадзяванаму росквіту, зьяўляецца для кожнага беларускага інтэлігэнта тэй жыватворнай крыніцай, з якой ён чэрпае сілу для далейшае барацьбы за сваю мову і Народ, кожны раз як толькі душу ягоную ахопяць балючыя сумлівы адносна беларускае будучыны ў зьвязку з часовымі няўдачамі мілае ягонаму сэрцу справы.

Дык краіну гэную, як *найбольш яркае выяўленьне беларускага адраджэнскага руху*, залог таго, чаго можам спадзявацца ад руху гэнага ў будучыне — трэба абкружыць старанлівейшай апекай, памагаючы, чым мага, хутчэйшаму развіцьцю і ўзбагачэньню беларускае літэратуры.

Перш за ўсё трэба паклапаціцца аб ухіленьні пэўных бракаў, якія лёгка заўважым, калі прыгледзімся бліжэй да сучаснага стану беларускае літэратуры і яе дасюлешніх дасягненьняў.

Вось-жа, разглядаючы адну па аднэй усе яе галіны, можам гэтак, з большага, ахарактарызаваць *сучасны стан беларускае літэратуры: поэзія—добры, драма—здавальляючы, проза—слабы!*

Асабліва, калі рэч ідзе аб паважнай прозе: повесьці, рамане. Праўда, апошнім часам, з „лёгкай рукі" пана М. Гарэцкага, (напісаўшага, колькі гадоў таму назад, першую, хронолёгічна, беларускую повесьць п. н. „Дзьве душы") беларуская літэратура ўзбагацілася некалькімі повесьцямі, якія хоць крыху запоўнілі прыкры прабел, істнаваўшы дасюль ў гэнай галіне, але гэным нельга а ніяк здаволіцца!

Гэнага рашуча мала!

І вось-жа тут *пераклады*, наагул *неабходныя* ў кожнай літэратуры, а асабліва вялікую ды важную ролю граючыя ў культурным жыцьці пачаўшых *адраджацца* пасьля заняпаду народаў — павінны прыйсьці нам з падмогай!

Перакладамі патрапім ў значнай меры ўхіліць анармальную „анэмію" гэнае галіны, а новыя беларускія повесьці, якія будуць тымчасам напісаны, дакончаць справу. Сконстатаваўшы, гэткім чынам, патрэбу перакладаў, спрабуем цяпер выявіць *што трэба перакладаць у першую чаргу*, як найбольш патрэбнае і карыснае? *Бяссумліўна найбольш пажаданымі былі-б гэткія творы чужацкіх аўтараў, якія апісвалі-б наш быт, нашых людзей, беларускую старонку.*

Гэткія якраз мотывы і знаходзім у творчасьці здэнацыяналізованых прадстаўнікоў беларускіх шляхоцкіх родаў. Прадстаўнікоў гэткіх *польская* літэратура мае значна больш чымся *маскоўская*.

*Спрабуем-жа цяпер зрабіць сьпіс гэных аўтараў* і прыгодных для нас іхніх твораў, агранічваючыся да *новай літэратуры* (XIX век і пачатак XX). *Пачнем агляд наш з маскоўскіх пісьменьнікаў*, ад'значаючы навет тых з іх, якія, прынамсі, хоць у якімсь з сваіх твораў зачапляюць беларускі быт.

*Вось-жа рэкамэндуем увазе нашых перакладчыкаў гэткіх аўтараў:* 1) *Купрын* (повесьць „*Ваўкалакі*" і можа яшчэ штось знайдзецца; повесьць „*Алеся*" ўжо перакладзена); 2) *Караленка*; затым варта пераглядзець творы: *Аксакава, Тургенева, Дастаеўскага і Горкага*, а з поэтаў — *Лерманшава* (поэмы: „*Баярын Орша*" і „*Ліцьвінка*"). Вось прыблізна і ўвесь матар'ял з расейскага боку.

*Цяпер пяройдзем да польскае літэратуры: Старэйшыя пісьменьнікі:* 1) *A. Mickiewicz;* 2) *J. Czeczot;* 3) *I. Chodźko;* 4) *A. Chodźko;* 5) *J. Kraszewski;* 6) *A. Odyniec;* 7) *W. Syrokomla;* 8) *J. Słowacki;* 9) *H. hr. Rzewuski;* 10) *H. Sienkiewicz*, апрача таго 11) *J. Korzeniowski* і 12) *Z. Kaczkowski.*

сувязі з кітайскімі падзеямі, протэстуючы проці інтэрвэнцыі чужаземных дзяржаваў у Кітайшчыне.

— Конгрэс **ангельскіх профэсыянальных саюзаў** прыняў пастанову, каб у выпадку пагрозы вайны незабаўна конгрэс быў склікаНы йзноў дзеля прыняцьця рашэньня аб правядзеньні контр-акцыі ў прамысловасьці з мэтаю ўхіліцца ад вайны.

— Міжнародны Трыбунал справядлівасьці ў **голяндзкай** сталіцы **Газе** выбраў прэзэсам на час з 1925 да 1927 г. праф. Губэра (Швайцарыя) і віцэ-прэзэсам Вэйса (Францыя).

— Нямецкі канцлер Маркс выслаў прэм'ерам саюзных дзяржаваў пісьмо з заявою, што ён змушаны апублікаваць дэклярацыю ўраду аб тым, што Нямеччына зьнімае з сябе ўсялякую адпавядальнасьць за паўстаньне вайны. Маркс заяўляе, што ўстрымліваўся ад апублікаваньня гэтае дэклярацыі, каб не пашкодзіць лёндонскім перагаворам і што палітыка Нямеччыны ня зьменіцца.

— Паводлуг вестак з **Мадрыду**, ў офіцыяльным паведамленьні Дырэкторыі гаворыцца, што з прычыны сур'ёзнае сытуацыі ў **Мароко**, ня будуць цярпецца ніякія атакі на аўторытэт ураду, а таксама ніякія дзеяньні, здольныя скрануць дысцыпліну ў арміі.

— З **Мароко** паведамляюць аб далейшых няўдачах гішпанскага войска. На франка-гішпанскай граніцы ў Мароко францускія ўлады концэнтруюць сілы.

— Літоўская прэса зьвяртае ўвагу, што з прычыны цяжкага эканамічнага крызысу, які перажывае **Літва** апошнім часам, сконстатованы рад банкруцтваў. Некатовыя з іх, як аказалася, былі фікцыйнымі.

— Савецкая ўрадовая прэса піша, што камісарыят унутраных справаў апрацаваў закон аб зьмене прозьвішчаў. За зьмену прозьвішча казна бярэ 3 рублі.

— 1-га верасьня ў фойэ Вялікага Маскоўскага Тэатру устаноўлены вялікі бюст Леніна. Стаўляньне памятнікаў Леніну зрабілася маніяй бальшавікоў, з якое сьмяюцца навет савецкія гумарыстычныя часопісі.

# Агляд прэсы.

## Яшчэ аб Савінкове.

Пераход Б. Савінкова на бок савецкай улады і яго „пакаяньне“ дагэтуль ня сходзіць са усіх амаль газэт. І няма дзіва. Пераход Савінкова зьяўляецца надта балючым ударам для расейскае эміграцыі.

У варшаўскай газэце „За Свободу” вядомы расейскі пісьменьнік Арцыбашаў піша:

> З Барысам Савінковым для шматкаго былі зьвязаны апошнія надзеі. Калі не рахаваць двох ці трох людзей з лагеру монархістаў, у радох антыбальшавіцкіх павадыроў ня было апрача Савінкова нікога іншага, каму можна было-б верыць бяз ніякога сумлеўку...

Далей, успомніўшы аб тых часох, калі ідэя компромісннага паразуменьня з бальшавікамі была на ўсіх вуснах, калі шмат хто захістаўся ў сваіх пераканаНьнях, калі ня можна было мець пэўнасьці навет датычна асобы Паўлы Мілюкова, — Арцыбашаў, зазначыушы, што ён не савінкавец, кажа, што аднак ня верыць у здраду Савінкова.

> ...На аснове ўсяго, што я чуў— піша А. — і ведаю аб ім, я маю яснае аб ім паняцьце, якое ня вяжацца са здрадай
>
> — Я ня веру ў здраду Савінкова!
>
> Ня веру ня толькі дзеля таго, што ў маім уяўленьні асоба Савінкова ня вяжацца са здрадай, але й дзеля таго, што маю лёгічныя падставы. Перш за усё мы дагэтуль ня маем ніякіх вестак аб здрадзе, апрача тых, якія выходзяць з бальшавіцкіх крыніцаў, а цэннасьць іх я вельмі добра ведаю. Я ведаю, што бальшавікі здольны на ўсё, што іхняя подласьць бязьмежна. Яны здольны ашукаць, ні перад чым не затрымоўваючыся, навет тады, калі брахня ёсьць зусім яўная. Усе рэвэляцыі аб Савінкове кідаюцца ў вочы сваімі нязгоднасьцямі і недарэчнасьцямі. Выражэньне жалю Савінкова навет у гэтых адрыўках, якія агалашае савецкая прэса, як надта цэнны матар'ял, ад'значаюцца недахватам сэнсу. Гэты доўгі сьпісак грахоў проці „работніцка-сялянскай улады“ напісаны так, як мог-бы яго ўлажыць нейкі „Сьцяпанаў“, каторы ведае дзеяльнасьць Савінкова толькі з газэт і са справаздачаў „Чэ-ка“. Тут зьбіты ў кучу і запраўдныя „грахі“ Савінкова і тое, чаго ён ніколі не рабіў.

Далей Арцыбашаў разьбірае заяву Савінкова аб тым, што расейскі народ *за* бальшавікоў. Ад'значыўшы, што С. 10 жніўня быў яшчэ ў Парыжы, а 20 жніўня яго арыштавалі, гэткім чынам ён на расейскай тэрыторыі мог быць толькі 2—3 дні, Арц. піша:

> І вось страшэнны вораг бальшавікоў у працягу трох дзён пераканаўся, што ўвесь расейскі народ за ўладу саветаў! Гэта было-б сьмешна, калі-б ня было гэтак дурнавата.

Пасьля зрабіўшы аналіз розных прыпушчэньняў датычна здрады Савінкова Арцыбашаў усё адкідае і робіць вывад, што С. ёсьць сам ахвярою здрады і папаўся ў рукі бальшавікоў, дзякуючы правакацыі.

Француская прэса дагэтуль мала займалася справай Савінкова. Часопісь „Le Journal“ выказвае думку, што С. вернецца ў... Францыю. Парыская газэта піша, што С. ніколі не пераставаў змагацца з Леніным дзеля таго, што бачыў у ім чалавека, якога ўспамагае Нямеччына. Далей, зьвярнуўшы ўвагу на скорасьць судовага працэсу ў справе С., піша, што можна надзеяцца што апраўдаўшы Савінкова, яго вышлюць. І канчае гэтак:

> Магчыма, што Барыс Савінкоў вернецца ў Парыж, дзе ён правёў гэтулькі часу, і ў свае рэдкія свабодныя часіны займецца літэратурнымі справамі.

Зьбіраючы галасы прэсы аб Савінкове, цікаўна будзе ад'значыць тое, што піша Ульрых, старшыня трыбуналу, які судзіў Савінкова.

Вось, што ён піша ў савецкай газ. „Правда”:

> Калі Савінкоў заявіў на судзе, што ён сумляваўся у магчымасьці скінуць савецкую ўладу, ў гэтым пункце сваіх прызнаньняў ён бязумоўна быў шчыры. Пасрэдны довад гэтага знаходзім у яго апошняй повесьці „Конь вороной“, напісанай у 1923 г. ў Парыжы. Усю гэту повесьць пранікае рашучы пэсымізм і няверые ў удачу барацьбы. Цалком прызнаўшы бязмэтнасьць барацьбы, ён ведама быў прымушаны дайсьці да пераканаНьня, што савецкую ўладу трэба прызнаць. Рэч вядомая застаецца толькі адкрытым пытаньне, ці ён рашыўся на гэта год назад, быўшы яшчэ ў Парыжы, як сам ён гэта сказаў, ці цяпер пасьля свайго арышту. Бязумоўна ці шчыры быў Савінкоў, гэта яшчэ пытаньне, але гэты факт ня мае вялікага значэньня. Важна тое, што Савінкоў гэтаю дзеяй зрабіў немагчымым сабе паварот да папярэдняй дзеяльнасьці і зрабіў немагчымым гэта для усіх арганізацыяў, якія былі зьвязаны з яго імем. Найвялікшае, аднак, значэньне маюць заявы Савінкова датычна яго адносін да чужых дзяржаваў, якія ён даў суду шчыра, ці няшчыра, нікога не шкадуючы са сваіх нядаўніх апякуноў.

А брат Савінкова, Віктар Савінкоў, у пісьме з Прагі у газ. „За Свободу“ піша:

> Барыс Савінкоў сядзіць у вастрозе і нічога сказаць ня можа. За яго кажуць яго ворагі. Яны адны толькі чулі, што казаў Барыс Савінкоў на судзе... Мы добра ведаем іхнюю лоўкасьць і хітрасьць ува ўсялякіх фальшах і брахні. І дзеля гэтага, калі б навет мне паказалі падпісаны рукой Барыса Савінкова дакумэнт, я бы не паверыў. Я паверыў-бы толькі яго слову, сказанаму на свабодзе.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Амэрыканская кіноматаграфія.

Заграні́чныя газэты публікуюць цыфры, якія сьведчаць аб вялізарным разьмеры амэрыканскага кіно-вытвару. У мінулым годзе Амэрыка выпусьціла на рынак больш як 700 абразоў, зрабіць якія каштавала каля 75 мільёнаў даляраў. Агульны лік кіно-тэатраў у Злучаных Штатах — 15.000. На рэкляму абразоў расходуецца штогодна больш як 5 мільярдаў даляраў (мільярд—1000 мільёнаў). Больш як 80% абразоў амэрыканскага вытвару вывозіцца за граніцу: ў 1923 годзе было вывезена з Амэрыкі 72 мільёны мэтраў. Адначасна амэрыканцы вельмі неахвотна прымаюць да сябе чужаземныя фільмы: з прывезеных у 1923 г. 425 эўропэйскіх абразоў толькі 10 трапілі на амэрыканскі рынак.

Аб пэнсіях, якія адтрымліваюць амэрыканскія „зоры” (артысты першай вялікасьці), можна рахаваць па гэткім прыкладзе: вядомы рэжысэр Д. Грыффіт падпісаў нядаўна кантракт з фірмаю Парамаунт на пастаноўку некалькіх абразоў. Гонорар — 10.000 даляраў у тыдзень!

### 40 гадзін у паветры.

Лятальны апарат „Shenandoah“ зрабіў у жніўні найдаўжэйшы рэйс над Атлянтычным акіянам. Гэты рэйс зьяўляецца сусьветным рэкордам. Апарат быў у паветры 40 гадзін і праляцеў

---

З гэных старых пісьменьнікаў *найбольш важнымі* для нас зьяўляюцца:

1) **A. Mickiewicz** (поэма *„Pan Tadeusz“*; *„Ballady i romanse“* і іншая дробязь; (поэма *„Dziady“* ўжо ператалумачана);

2) **I. Chodźko** апавяданьні пад назовам: *„Obrazy i podania litewskie“*;

і 3) **W. Syrokomla** (*L. Kondratowicz*) (невялікія поэмы: *„Ułas“*; *„Jan Dęboróg“*; *„Lirnik wioskowy“* ды некаторыя з вершаў.

Цяпер пяройдзем да *навейшых пісьменьнікаў!* Вось яны: 1) *E. Orzeszkowa*, 2) *M. Rodziewiczówna*, 3) *J. hr. Weysenhoff*, пасьля 4) *H. Mniszek*, 5) *H. Romerowa* і 6) *H. Szpyrkówna* і г. п. польскія аўторы, паходжаньнем з *„Kresów“*.

**Найбольш цэннымі для нас зьяўляюцца** творы першых трох аўтораў, даўшых, (*асабліва Orzeszkowa*) цэлы рад чыста-беларускіх па духу і зьместу повесьцяў, апавяданьняў і новэляў, стоячых адначасна і на высокім мастацкім роўні. Якраз:

1. **E. Orzeszkowa** (повесьці: 1) *Nad Niemnem*, 2) *Dziurdziowie*, 3) *Cham*, 4) *Niziny*, 5) *Anastazja*, 6) *Bene nati*, апрача таго новэлі).

2. **M. Rodziewiczówna** (раманы: 1) *Byli i będą*, 2) *Klejnot*, 3) *Pożary i zgliszcza* і зборнікі новэляў: *„Z głuszy“* і *„Czarny chleb“*).

3. **J. hr. Weysenhoff** (раман *„Puszcza“*).

Творы гэных 3 аўтораў трэ' было-б перакласьці якнайхутчэй, у першую чаргу.

Яны дасканальна папоўняць сучасны няхват повесьцяў у беларускай літэратуры, адначасна заахвочваючы беларускіх пісьменьнікаў да больш інтэнсыўнай працы над гэнай галінай.

Вось больш-менш усё тое, што можна сказаць аб чужацкіх літэратурных творах з беларускім зьместам.

Адначасна, калі ўжо гутарка пайшла аб перакладах, знаходзім неабходным ад'значыць што ў гэнай працы *нельга спыняцца на тутака прыведзеным матар'яле, які зьяўляецца толькі фармальна чужацкім, фактычна будучы часткай беларускай арыгінальнай літэратуры* з пэўнымі, канешне, засьцярогамі!

Апроч таго нам патрэбна *сапраўды чужацкая* перакладная літэратура!

Архітворы сусьветнае літэратуры з *агульна-людзкім* зьместам, асабліва сцэнічныя!

Гэтак, нам трэба перакладаў: Шэксьпіра (перш за ўсё несьмяротнага „Гамлета”), Мольераўскіх камэдыяў (перакладзены ў Менску), драмаў Шыльлера, твораў скандынаўскага рэпэртуару і г. п.

Патрэбны між іншым пераклады ляўрэатаў Нобэля!

Пажаданы так-жа і пераклады лепшых твораў нашых бліжэйшых суседзяў Палякоў ды Маскоўцаў, а таксама і братоў-Украінцаў, якія ёсьць прыкладам для нас і люстаркам нашае будучыны.

Пытаньне аб перакладах з чужацкае літэратуры можна было-б закрануць шмат шырэй, але дзеля таго, што яно не зьяўляецца гэтак *сьпешным*, як пераклад раней названых твораў (з беларускага быту), пакуль што, аграні́чваемся адносна яго да гэных некалькіх увагаў, зьвяртаючыся ізноў да нашае пачатковае тэмы.

**Вось-жа да працы над перакладамі павінны брацца, хто толькі можа!**

А патрапіць гэна зрабіць, *пакольки гутарка ідзець аб перакладах прозай*, ледзь што ня *кожны* беларускі інтэлігэнт!

Больш клопату з перакладамі вершам, якія даступны толькі некаторым, бо для гэтага неабходны, апрача інтэлігэнцыі, поэтыцкія здольнасьці.

Але адносна прозы нямашака ніякіх адгаворак!

Дык трэба пакінуць стан інэрцыі і заняцца, больш энэргічна, як дасюль, гэтай даволі прыемнай і лёгкай, а вельмі карыснай для Бацькаўшчыны, культурнай працай!

Vita-brevis, ars longa!

Язэп Сьветазар.

1,300 міляў. Пры гэтым колькасьць гэлію (газу), якім напоўнены апарат, ня зьменшылася.

**Якіх пасажыраў можна вазіць на аэроплянах?**

У Бэрлін на аэропляне прывязьлі з Расеі бурую мядзьведзіху, падараную нямецкаму зоолёгічнаму саду таварыствам „Дэрулюфта“. Мядзьведзіха, якая носіць паэтычнае імя — Тацьцяна — ў поўным здароўі вытрывала паветраную падарожу з Масквы ў Нямеччыну.

**Найбольшы рэйс падводнай чайкі.**

Нядаўна адна з буйнейшых ангельскіх падводных чаек, маючая 2.150 тоннаў вадазьмяшчэньня, вярнулася з самага доўгага рэйсу, які дасюль быў калі-небудзь зроблены падводнаю чайкаю. Гэта падводная чайка выйшла 20 студня з Портсмуту, заехала ў Сінгапур і вярнулася назад, зрабіўшы 20.000 ангельскіх міляў. Падводная чайка заяжджала па дарозе ў некалькі портаў, але заўвесь час не патрабавала ніякага рэмонту.

**Колькі на сьвеце камуністаў?**

Венская рабочая часопісь „Arbeiter Zeitung“ прыводзіць надрукованыя ў офіцыяльным органе Камінтэрну „Інпрекор“ цыфры, якія характарызуюць лік камуністычных партыяў у розных краёх: РСФСР — 244.466 сяброў (венская газэта ад'значае, што гэта *на 30.000 менш*, як агульны лік сяброў соцыяль-дэмакратычнае арганізацыі ў аднэй Вене), і 209.753 кандыдаты (*агулам лік сяброў партыі разам з кандыдатамі на 60.000 меншы, як лік сяброў соц.-дэмакратычнае партыі ў шасьцёхміль'ённай Аўстрыі*). Украіна — 36.177 сяброў і 37.556 кандыдатаў, *Беларусь — 6.433 сябры і 3.605 кандыдатаў*, Арменія — 1.875 і 2.422, Азэрбайджан—7.163 і 10.152, Грузія—10.964 і 2.713 (лік сяброў грузінскае соцыяль-дэмакратычнае партыі даходзіў да 80.000), Нямеччына — 350.000, Францыя—50.000 і 5.000 кандыдатаў, Чэхаславакія—130.000, Італія—12.000, Англія—3.000, Ірляндыя — 50 чалавек, Румынія — 2.500, Грэцыя 2.050 і 450 кандыдатаў, Турцыя — 250 і 350 кандыдатаў, Нарвэгія—16.000, Данія—700 чалавек, Голяндыя — 1.700, Бэльгія—590, Швэйцарыя — 4.000; аб Аўстрыі ніякіх ведамасьцяў няма, хаця камуністычная партыя існуе там саўсім легальна. Ісьляндыя — 450 чалавек, Гішпанія—5.000, Партугалія—700, Злучаныя Штаты—27.000, Канада—4.000, Аўстралія—250, Паўднёвая Афрыка—400, Мэксыка — 1.000, Аргэнтына — 3.500, Чылі—2.000, Урагвай—600, Бразылія—350, Кітайшчына—800, Пэрсія—600, Эгіпэт—700, Палестына—100, Манголія—4.000, розныя краі Сярэдняе Амэрыкі агулам — 50 чалавек Не паказаны цыфры ў тых краёх, дзе камуністычная партыя існуе нелегальна.

„Arbeiter Zeitung“ ад'значае, што, калі выключыць С. С. С. Р. і Нямеччыну, дык „*увесь камуністычны сьвет“ налічвае ня больш, як адна венская соцыяль-дэмакратычная партыя*. У дэтальнасьці ўся „камуністычная партыя Англіі“ мае менш сяброў, як соц.-дэмакратычная арганізацыя невялікага партыйнага гуртка соцыяль-дэмакратаў у адным з прадмесьцяў Вены. Асабліва кідаецца ў вочы *нікчэмны лік камуністаў у прамысловых краёх Заходняе Эўропы*, што найлепей характарызуецца лікам бэльгійскіх камуністаў—590.

„І ўявіць сабе толькі ўсе гэтыя рухі бяз фінансавай падмогі з Масквы“, — канчае свой артыкул венская газэта.

Адным словам, ня так ужо чорт страшны, як яго малююць.

## У С.С.Р.Р.

**Забастоўка протэсту.**

У Батуме (на Каўказе) партавыя рабочыя і грузчыкі спынілі работу на знак протэсту проці расстрэлу аддзелам батумскае чэ-кі ў сяле Чахва трох сялян, даўшых прытулішча прыбыўшым з-заграніцы сябром грузінскае меншавіцкае партыі.

**Халера.**

У Хвалынскі павет, Саратаўскае губэрні пасланы лякарска - санітарныя аддзелы на барацьбу з халернаю пошасьцяй. Павятовы камітэт зарэестраваў за палову жніўня 269 выпадкаў сьмерці ад халеры. Сялянскае насяленьне павету з вясны 1924 году кармілася аднымі толькі сурогатамі і ў цяперашні час, з прычыны гібелі пасеваў, саўсім ня мае хлебных прадуктаў.

**Аб паўстаньні ў Грузіі.**

Пра грузінскае паўстаньне даходзяць гэткія весткі:

У Горы часьць гарнізону разьброена прыбыўшымі з Тыфлісу панцырнікамі. Тыфліскія чугункавыя майстроўні бастуюць. Горад Нова-Сэнакі заняты паўстанцамі. У Чыятурскіх капальнях шахцеры спынілі працу і перайшлі да паўстанцаў. Чыятурскі аддзел паўстанцаў адцісьнены ў горы. Чугуначная лінія Сумбатава—Боржом і Бакурыяні ў руках паўстанцаў. У Душэце абвешчана асаднае палажэньне, жыхаром забаронена выходзіць на вуліцу пазьней 7 гадз. У сельскіх мясцовасьцях Горыйскага, Душэцкага і Тыфліскага пав. камуністы паразрэзаны сялянамі.

**Голад у Башкірыі.**

У Маскве адтрыманы ведамасьці аб харчавым палажэньні ў заходніх паветах Башкірскае рэспублікі. Харчавы дэфіцыт дайшоў у гэтым годзе да 22 міль'ёнаў пудоў. Пры ўсіх расходах застаецца ў сярэднім на пракармленьне аднаго чалавека да новага ўраджаю 2 пуды 10 фунтаў, што ніжэй за запасы галоднага 1921 году, калі на аднаго чалавека выпадала каля 3-х пудоў. На аснове гэтых даных Башкірская рэспубліка трэбуе ад маскоўскага цэнтру срочнае харчавое падмогі.

## Навіны ў тры радкі.

— У бліжэйшым часе савецкі Балтыцкі флёт мае рабіць на моры вялікія манэўры.

— У мясцовасьці Ля-Пац (Болівія, ў Паўдзён. Амэрыцы) ўзарваліся параходныя склады, ў якіх было 14 тоннаў дынаміту.

— Як піша „Chicago Tribune“ ў адным з кафэ паліцыя выкрыла фабрыку фальшывых амэрыканскіх пашпартоў. Цана гэткага пашпарту была 600 даляраў.

— У Менску прабывае цяпер вядомы камандзер бальшавіцкае кавалерыі ў вайне 1920 г. Гай-Хан.

— Нямецкі ўрад замерваецца адкінуць цэлы рад пунктаў вашынгтонскае конвэнцыі аб даўжыні рабочага дня.

— Дарагоўля ў Пазнані за жнівень месяц падрасла на 7,99 проц.

— Эміграцыя з Англіі мацнее. За апошні год выехала за граніцу 130.000 чалавек.

— У мінулым годзе на Шпіцбэргэне (Скандын.) дабыча каменнага вугля дасягнула 400.000 тоннаў.

— У пачатку кастрычніка ў Бэрліне мае быць зроблена аднадзенная агульная перапісь жыхароў.

— У Бэрліне налічваецца цяпер 101.893 безработных.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

**— 7-IX г. году адбылося паседжаньне Рады Старшыняў** Беларускага Грамадзянскага Сабраньня.

Дзеля важнасьці пытаньняў, якія былі пастаўлены на павестку дня, паседжаньне адбылося пры поўным кворуме.

Першым слухалі даклад аднаго з сяброў камісіі па абсьледаваньню, ў якім палажэньні знаходзіцца беларускі прытулак.

Рада Старшыняў, выслухаўшы даклад, пастанавіла зьвярнуцца да пана Дэлегата Ураду з просьбай назначыць камісію для абрэвізаваньня матэр'яльнага стану прытулку і пасьля гэтай рэвізіі вырашыць далейшае пытаньне аб існаваньні прытулку.

Другім пытаньнем было — школьнае.

Разважыўшы усебакова гэтае пытаньне, Рада Старшыняў прыняла рэзалюцыю: „З прычыны таго, што цяперашняя Школьная Рада займаецца больш палітыкай, чым школьнымі пытаньнямі, зрабіць пры Радзе Старшыняў школьную камісію, якая выпаўняла-б усе абавязкі Школьнай Рады і мець заўсёднага прадстаўніка ў Варшаве пры Міністэрстве Прасьветы.

Злажыць камісію даручыць прэзыдыуму.

Прыступіць якнайхутчэй к адкрыцьцю школ і гімназіяў.

Трэцім, самым важным пытаньнем было: аб палітычнай пляцформе, якую мае заняць Беларускае Грамадзянскае Сабраньне.

Пастаноўлена аб'явіць Беларускае Грамадзянскае Сабраньне **палітычнай арганізацыяй**, стоячай на пляцформе лёяльнасьці да Польшчы і прызнаючы, што польская конституцыя забясьпечвае як нацыянальныя, так і палітычныя правы беларускага народу, ставіць сваей бліжэйшай мэтай тэрыторыяльную аўтаномію як першы этап к дасягненьню нацыянальнага ідэалу—Незалежнасьці Беларусі.

Потым былі разгледжаны пытаньні меньшай вагі і між іншымі аб дэлегацыі на банкет у часьць Дэлегата Ураду.

На банкет былі выдэлегованы п. п. Більдзюкевіч і Счансновіч.

**— „Дэмон“ пабеларуску.** Пісьменьнік Краўцоў Макар перакладае цяпер на беларускую мову вершаваную расейскую повесьць М. Лермантава „Дэмон“. У пачатку будучага году, калі знайдзецца выдавец, пераклад можа выйсьці з друку.

**— Школьная Камісія.** Пры Беларускім Грамадзянскім Сабраньні стварылася Беларуская Школьная Камісія, якая энэргічна займаецца школьнымі справамі ў Заходняй Беларусі. Ад Беларускага Грамадзянскага Сабраньня дэлегуецца спэцыяльная камісія ў Варшаву дзеля сувязі з Міністэрствам Прасьветы па школьнаму беларускаму пытаньню. Есьць надзея, што з бягучага вучэбнага году ўсюды, дзе трэба, будуць адчынены беларускія школы. У сучасны момант пачата рээстрацыя настаўнікаў.

## Паштовая скрынка.

**А. П. м. Івенец.** Што маеце — прысылайце. А што датычыць пытаньня ў прыпісцы, дык самі добра ведаеце, што адказаць ня можам. Паклон Д. пераданы.

Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.